Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 5 (31)

МАЙ 1935 г.



М Е Н С К — 1 9 3 5



Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 5 (31)

МАЙ 1935 г.

МЕНСК — 1935

## ПАСТАНОВА

### Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР

### Аб становішчы ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах і райвыканкомах

Заслухаўшы даклад Начальніка Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР аб становішчы ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах і райвыканкомах, Прэзідыум ЦВК БССР адзначае, што ў справе пастаноўкі первічнага ўчота ў сельсоветах маецца значны зрух у параўнанні з 1934 годам. Аднак, побач з гэтым, як высветлена пры абследванні органамі Наргасучота, маецца рад сельсоветаў у такіх раёнах, як Старобінскі, Бярэзінскі, Клімавіцкі, Любаньскі, Петрыкаўскі, Рэчыцкі, Уваравіцкі, Плешчаніцкі і інш., дзе первічны ўчот яшчэ не наладжан. Таксама застаюцца яшчэ да гэтага часу неўпарадкаванымі ўчот і справаздачнасць у аддзелах РВК (асабліва ў РайАНА і Райздравах некаторых раёнаў — Асіпавіцкі, Бягомльскі, Глускі, Дзержынскі, Крычаўскі, Лепельскі, Смалявіцкі і інш.).

Нездавальняючая пастаноўка ўчота ў некаторых сельсоветах і аддзелах РВК сведчыць аб недаацэнцы справы ўчота з боку кіраўнікоў РВК, іх аддзелаў і старшынь сельсоветаў, не выконваючых дырэктыў аб арганізацыі правільнага ўчота.

Выходзячы з вышэйпаказанага, Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць райвыканкомы, разам з інспектарамі Наргасучота, на працягу мая месяца г/г праверыць пастаноўку первічнага ўчота ва ўсіх сельсоветах, з абавязковым забяспечаннем поўнага яго ўвядзення





і заслухоўваць на паседжаннях прэзідыумаў РВК даклады старшынь сельсоветаў (з папярэднім абследваннем) аб становішчы первічнага ўчота, маючы на ўвазе, што падатковы ўчот аб'ектаў абкладання ў чэрвені месяцы г/г будзе праводзіцца на падставе пагаспадарчых кніг первічнага сельсовецкага ўчота.

2. Указаць старшыням РВК: Старобінскага раёна т. **Лабзакову**, Клімавіцкага раёна т. **Сельвестраву** і Уваравіцкага раёна т. **Ісадчэнко** на адсутнасць з іх боку належнай увагі справе ўчота ў сельсоветах.

3. Маючы на ўвазе, што частая змена сакратароў сельсоветаў, а таксама недастатковая іх кваліфікацыя вельмі адбіваюцца на рабоце сельсоветаў і асабліва на пастаноўцы ўчота і справаздачнасці, прапанаваць райвыканкомам спыніць частую змену сакратароў сельсоветаў, дапускаючы змену іх толькі ў выпадках крайней неабходнасці і забяспечыўшы ўзняццё іх кваліфікацыі.

4. Абавязаць раённыя загатавіцельныя арганізацыі своечасова дасылаць сельсоветам копіі квіткоў для адзнакі ў пагаспадарчых кнігах выканання паставак дзяржаве.

5. Прапанаваць райвыканкомам да 1-га чэрвеня 1935 года забяспечыць упарадкаванне ўчота і справаздачнасці па ўсіх аддзелах РВК, асабліва ў РайАНА, Райздраве і Райкамгасе.

6. Прапанаваць наркаматам, установам і райвыканкомам строга прытрымлівацца ўстаноўленых урадам СССР і БССР форм і тэрмінаў учота і справаздачнасці, не дапускаючы ўвядзення незаконных форм і парушэння ўстаноўленых тэрмінаў.

7. Прапанаваць Кіраўніцтву Наргасучота БССР устанавіць сталы нагляд за ўкараненнем зацверджаных для райвыканкомаў і сельсоветаў форм учота і справаздачнасці, вядучы рашучую барацьбу супроць парушэння ўстаноўленых форм, з прыцягненнем вінаватых у гэтым да суровай адказнасці.

8. Заслухаць на Прэзідыуме ЦВК БССР у ліпені месяцы г/г даклады 2-х старшынь РВК і 5-ці старшынь сельсоветаў, з папярэднім абследваннем Кіраўніцтвам Наргасучота, аб становішчы первічнага ўчота ў сельсоветах.

9. Уключыць у план работы Арганізацыйнага аддзела Прэзідыума ЦВК БССР праверку становішча ўчота і справаздачнасці ў РВК і сельсоветах.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта БССР **А. Чэрвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта БССР **М. Леўкоў.**

15 красавіка 1935 г., г. Менск.

---

## Выпіс з пратаколу № 4

### п. 3 распарадчага паседжання прэзідыуму ЦВК БССР

*ад 11/IV-1935 г.*

3. Слухалі:

Хадайнічанне Кіраўніцтва Наргасучота аб скасаванні распараджэнняў Аршанскага і Старобінскага РВК, патрабуючых ад сельсоветаў—непрадугледжаных законадаўствам справаздачнасці і звестак.

(Ун. Сакратаром ЦВК БССР)

Дакладчык тав. Владзімірскі.

Пастанавілі;

1. Распараджэнні Аршанскага і Старобінскага РВК аб прадстаўленні сельсоветамі справаздачных матэрыялаў, непрадугледжаных існуючымі формамі, адмяніць.

2. Паказаць усім РВК на неабходнасць, пры патрабаванні справаздачных матэрыялаў ад сельсоветаў, строга кіравацца маючайся пастановай ЦВК і СНК ад 7/XII-1934 г. „Аб справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў“ (З. З. СССР за 1934 г. № 63 арт. 453).

3. Пытанне аб становішчы справаздачнасці і ўчота ў сельсоветах і неабходных мерапрыемствах па іх умацаванню заслу-

хаць на наступным паседжанні Прэзідыума ЦВК, абавязаўшы тав. Владзімірскага прадставіць матэрыялы па гэтаму пытанню і праэкт пастановы.

4. Гэту пастанову (п. 1 і 2) апублікаваць у друку.

Сакратар цэнтральнага
Выканаўчага Камітэта БССР *М. Леўкоў.*

---

**Паштовае пацверджанне**

## Радыёграма ўсім Старшыням Райвыканкомаў

Атрыманых даных справа запаўнення пагаспадарчых кніг пастаўлена яўна нездавальняюча тчк Шмат сельсоветах кнігі яшчэ не запоўнены кск некаторых запоўнены неправільна прычыны дрэннага інструктажа кск асобныя сельсоветы поўнасцю не забяспечаны кнігамі крп Пастанова СНК 13 красавіка невыканана крп Гэта пагражае зрывам учота аб'ектаў сельгаспадатка крп Абавязваю старшынь РВК іх персанальнай адказнасцю неадкладна прыняць рашучыя меры запаўнення пагаспадарчых кніг камандыраваць адстаючыя сельсоветы спецыяльных работнікаў забяспечыць сканчэнне работы не пазней 20 мая крп Становішча справы прынятых мерах тэлеграфце Соўнаркому 15 мая.

*Галадзед*

## Радыёграма

### Усім загадчыкам Райза і дырэктарам МТС

Маюцца выпадкі патрабавання з боку Райза і МТС (Слуцк, Грэск) ад сельсоветаў і калгасаў штодзённых звестак аб ходзе сева ў той час, калі гэтыя звесткі, згодна пастановы ўрада, павінны давацца толькі па пяцідзёнкам.

Катэгарычна прапануем зараз-жа адмяніць патрабаванне ад сельсоветаў і калгасаў штодзённых звестак аб ходзе сева і сурова прытрымлівацца тэрмінаў і форм учота і справаздачнасці, зацверджаных урадам.

За невыкананне гэтага вінаватыя будуць прыцягнуты да суровай адказнасці.

Наркамзем *Бэнек.*

Наргасучот *Владзімірскі.*

7/IV-35 г,

---

## Старобін Старшыні Райвыканкома Кобзакову

Катэгарычна забараняем патрабаваць штодзённыя звесткі сева, якія супярэчаць тэрмінам устаноўленым саюзным урадам.

Совнарком *Галадзед.*

10/III-35 г.

---

## Пастанова

### Журы конкурса на лепшую Райінспектуру Наргасучота

*14 мая 1935 года*

У звязку з хадайніцтвам райінспектур, а таксама, улічваючы шэраг прадстаячых зараз перад раінспектурамі буйных работ (Чэрвеньскі ўчот жывёлы, дынамічнае абследванне калгасаў, вымярэнне ўраджаю і інш.), працягнуць абвешчаны конкурс на лепшую райінспектуру да 1-га жніўня 1935 года.

Старшыня Журы *Голант.*

Члены Журы { *Арцемкоў.* *Магідаў.*

---

## Пастанова № 1667

### Камітэта па нарыхтоўкам сельска-гаспадарчых прадуктаў пры СНК СССР і Цэнтральнага кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота СССР.

*ад 25 красавіка 1935 года.*

З месц паступаюць масавыя паведамленні аб тым, што нарыхтоўчыя арганізацыі, якія праводзяць прыёмку мяса, малака і шэрсці, вельмі неакуратна дасылаюць адпаведным сельсоветам копіі прыёмных квіткоў, а па малаку—копіі ведамасцей на паступаючыя ў парадку абавязковай пастаўкі прадукты; у паасобных выпадках гэтыя дакументы сельсоветам зусім не высылаюцца. У звязку з гэтым, у сельсоветах зрываецца ўчот выканання абавязацельстваў насельніцтвам і затрудняецца нагляд за ходам здачы паказаных сельскагаспадарчых прадуктаў.

На падставе паказанага КомЗаг СНК СССР і ЦУНХУ Дзяржплана СССР пастанаўляюць:

1. Абавязаць Саюззаготжывёлу, Галоўмаслапром, Галоўмалако, Галоўкансервмалако, Цэнтрамолптушку, Саюззаготшэрсць

і Цэнтрасыравіну ў 5 дзённы тэрмін даць катэгарычнае распараджэнне сваім абласным, краявым і рэспубліканскім органам, абавязваючае іх забяспечыць, каб усе нарыхтоўчыя пункты точна ва ўстаноўлены тэрмін накіроўвалі сельсоветам копіі прыёмных квітоў па здачы мяса і шэрсці і копіі спісаў здатчыкаў па малаку.

2. Папярэдзіць пералічаныя вышэй нарыхтоўчыя арганізацыі, што ў выпадку невыканання гэтай дырэктывы, загадчыкі адпаведных нарыхтоўчых, зліўных, сепаратарных пунктаў, дырэктары заводаў, старшыні райсаюзаў і г. д. будуць прыцягвацца да адказнасці за зрыў работы па ўчоту выканання абавязацельстваў.

3. Ускласці на райупаўнаважаных КомЗаг СНК СССР і раённых інспектароў народна-гаспадарчага ўчота кантроль за выкананнем гэтай пастановы.

Нам. Старшыні Камітэта па нарыхтоўкам
Сель-гасп. прадуктаў пры СНК СССР *Злобін.*

Нам. Начальніка ЦУНХУ
Дзяржплана СССР *Папоў.*

---

## КНГУ рэспублік, краёў і абласцей.

Па інструкцыі аб увядзенні первічнага ўчота ў сельсоветах часова пражываючае насельніцтва павінна ўлічвацца ў асобных спісах па форме № 4.

У звязку з тым, што некаторыя сельсоветы заносяць у гэты спіс не кожную часова пражываючую асобу, а толькі главу сям'і (па прыкладу таго, як вядзецца асноўны спіс гаспадарак сельсовета па ф. 4)—растлумачваецца:

У асобных спісах па ф. № 4 часова пражываючае насельніцтва павінна ўлічвацца поўнасцю, г. зн. у гэтым спісу павінны запісвацца не толькі глава часова пражываючай сям'і, але і ўсе члены гэтай сям'і, кожны з якіх павінен быць запісан у асобным радку (строке). Гэта неабходна таму, што даны спіс з'яўляецца адзінай крыніцай звестак аб лікавасці часова пражываючага насельніцтва, неабходных у прыватнасці пры падатковым учоце жывёлы.

Прапануецца даць тэрміновае ўказанне аб гэтым усім райінспектарам і забяспечыць давядзенне яго да сельсоветаў.

Нам. Нач. ЦУНХУ Дзяржплана СССР *Папоў*

Нам. Нач. Цэнтр. учотнай Інспекцыі
ЦУНХУ Дзяржплана СССР *Моргенштэрн.*

5 мая 1935 г. № 09—11.

## КНГУ Саюзных Рэспублік, Краёў і Абласцей.

У сувязі з паступаючымі запытаннямі ЦУНХУ Дзяржплана СССР растлумачвае, што пастанова СНК СССР ад 13 верасня аб прадстаўленні Міжраённым Дзяржаўным Камісіям па ўраджайнасці права патрабаваць ад Райземаддзелаў справаздачнасць працягвае існаваць і ў сучасны момант. Пагэтаму патрабаванне Міжраённых Дзяржаўных Камісій па ўраджайнасці аб прадстаўленні ім копій справаздачнасці ў межах пераліка форм, зацверджанага для Райза, з'яўляецца законным і падлягае выкананню.

Пастаўце аб гэтым у свядомасць райінспектуры і ведамствы.

Нам. Начальніка ЦУНХУ *Папоў*

Нам. Нач. Цэнтр. учотнай Інспекцыі *Моргенштэрн*

7 красавіка 1935 г.
№ 09—12

---

## Выпіс з загада № 90

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР

*ад 20 красавіка 1935 г.*

**Аб прэміраванні кіраўнікоў перапісу ў рэспубліках, абласцях і краях, абласных і раённых інструктароў перапісу абсталявання 1934 года.**

1. У адпаведнасці з загадам ЦУНХУ Дзяржплана СССР № 200 ад 17-га ліпеня 1934 года аб вылучэнні прэміяльнага фонда па перапісу абсталявання, за ўзорнае правядзенне перапісу і добрую якасць сабраных матэрыялаў прэміраваць наступных кіраўнікоў перапісу ў рэспубліках. абласцях і краях:

2. УНХУ Беларускай ССР т. Мохарт—300 руб.

3. Прэміраваць наступных абласных і раённых інструктароў перапісу:

а) Абласныя інструктары:

Беларуская ССР

1. т. Барэнбаум . . . . . . . . 200 руб.

б) Раённыя інструктары

Беларуская ССР

1. т. Эпштэйн . . . . . . . . . 150 руб.

Нам. Начальніка ЦУНХУ
Дзяржплана СССР *Папоў*.



## Усім інспектарам народна-гаспадарчага ўчота

На аснове пастановы СНК СССР ад 16 лютага 1935 г. за № 254 і СНК БССР ад 25/III-35 г. прапануем усім інспектарам наргасучота арганізаваць сістэматычную праверку точнасці рэгістрацыі аўтатранспарта, а таксама точнасці і своечасовасці прадстаўлення зводак аб наліччы і становішчы аўтамабільнага парка. Для гэтага патрэбна зрабіць наступнае:

1. Сістэматычна праводзіць праверку вядзення картатэкі рэгістрацыі аўтапарку ў райдораддзелах.

2. Правяраць правільнасць і своечасовасць адсылкі райдораддзеламі раённых зводак аб наліччы і становішчы аўтатранспарта па ф. № 3, 7-а і 7-б у Галоўдартранс.

Кіравацца па ўсім гэтым пытанням патрэбна інструкцыяй Цудортранса, якія маюцца ў райдораддзелах.

Ва ўсіх выпадках неправідловага вядзення картатэкі райдораддзеламі, няпоўнага ахопу налічча аўтапарку ці несвоечасовасці адсылкі зводак аб наліччы аўтапарка ў Галоўдартранс Вам неабходна прыняць адпаведныя меры ўздзейнічання (праз РВК пракуратуру), паведамдяючы аб гэтых фактах секцыю ўчота транспарта і сувязі КНГУ БССР.

Нам. Начальніка Кіраўніцтва

Наргасучота БССР *Голант.*

28 красавіка 1935 г.

---

## Загад № 194

### Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага ўчота БССР.

*ад 11-га мая 1935 года.*

§ 1.

Загадам па Кіраўніцтву ад 9/II-35 г. было паведамлена ўсім райінспектурам аб арганізацыі работ па аднаразоваму ўчоту колькасці работнікаў і фондаў зарплаты за сакавік м-ц 1935 г. Гэтым жа загадам інспектуры абавязаліся правесці ўсю падрыхтоўчую работу з такім разлікам, каб поўнасцю забяспечыць заканчэнне гэтага ўчота ў тэрмін, устаноўлены урадам.

15-га лютага былі разасланы ўсім інспектурам інструкцыі па правядзенню аднаразовага ўчота, 21/III у дадатак да інструкцыі разасланы ўказанні аб тэрмінах і парадку збора матэрыялаў, а таксама дасланы пастановы Соўнаркома СССР і БССР аб правядзенні аднаразовага ўчота.

8/IV—адносінай сектара ўчота працы быў устаноўлен спецыяльны парадак інфармацыі аб ходзе ўчота, дзе таксама было яшчэ раз падкрэслена аб тэрмінах правядзення ўчота.

Не гледзячы на ўсе гэтыя своечасовыя мерапрыемствы, а таксама цэлы рад паказанняў, разасланых сектарам інспектурам аб парадку і метадах ліквідацыі недахопаў, выяўляўшыхся ў працэсе правядзення ўчота нараду з інспектарамі, якія своечасова і добра выканалі аднаразовы ўчот—Віцебск, Рэчыца, Гомель, Даманавічы, Багушэўск, Клічаў, Чашнікі, Крупкі, Клімавічы, Лёзна і рад іншых некаторыя інспектуры, а іменна—Аршанская (т. Сомін), Сененская (т. Камароў), Асіпавіцкая (т. Аксельрод), Суражская (т. Іоффе), Шклоўская (т. Саўчэнко), Глуская (т. Дамброўскі), Прапойская (т. Хайкін), і іншыя справу правядзення ўчота пусцілі на самацёк і безадказнымі адносінамі да столь важнай работы вызначанай у плане работ на 1935 г. сарвалі ўсе тэрміны і сталі на шлях зрыва першынства КНГУ БССР у соцыялістычным спаборніцтве з КНГУ Саратаўскага края і Заходняй вобласці.

§ 2

Лічачы зусім недапушчальнымі гэткія адносіны да выканання плана работ і загадаў па кіраўніцтву, Загадваю: Інспектароў Аршанскага раёна ( т. Соміна) і Сененскага (т. Камарова) адкамандыраваць з курсаў у свае раёны для поўнага выканання загада аб аднаразовым учсце колькасці персанала і фондаў зарплаты за сакавік 1935 года; т. т. Соміну і Камарову прадставіць поўны матэрыял па сваім раёнам не пазней 16-га мая, пасля чаго прыступіць для працягу ўчобы на курсах.

§ 3

Папярэджваю райінспектароў, якія яшчэ не скончылі аднаразовага ўчота, асабліва інспектароў Плешчаніцкага, Полацкага Халопенічскага, Менскага раёнаў, што калі яны не забяспечаць прадстаўлення поўных матэрыялаў па аднаразоваму ўчоту на працягу 2-3-х дзён, у адносіне іх будуць прыняты больш суровыя меры спагнання.

Начальнік кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

## Загад

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага ўчота БССР.

*ад 7-га красавіка 1935 г.*

Не гледзячы на папярэджанні, што ва ўмовах адмены картачнай сістэмы па хлебу і некаторым іншым прадуктам праца па ўчоту цэн калгаснага базарнага гандлю мае вельмі важнае

значэнне, што цэны гэтыя з'яўляюцца адным з важнейшых эканамічных паказчыкаў—часова выконв. абавязкі інспектара Наргасучота па Прапойскаму раёну т. Высоцкі аднёсся да гэтай працы зусім безадказна, прадставіўшы ў КНГУ не верныя даныя і як высветлілася з асабістых тлумачэнняў, даных т. Высоцкім начальніку сектара ўчота совецкага гандлю КНГУ т. Мізевічу, не зарэгістрыраваных непасрэдна на базарах.

У сувязі з паказаным загадваю: т. Высоцкага з работы зняць.

Часова выкананне абавязкаў інспектара Наргасучота па Прапойскаму раёну ўскладаю на інструктара-статыстыка тав. Хайкіна

Начальнік Кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

# II. РАБОТА КНГУ І ЯГО СІСТЭМЫ.

## Аб чэрвеньскім учоце жывёлы

Адна з важнейшых работ, якая зараз прадстаіць раённым інспектарам Наргасучота, гэта правядзенне Чэрвеньскага ўчота жывёлы сумесна з органамі НКФіна.

На органы Наргасучота ўскладаецца задача: правядзенне 10% кантрольнай праверкі гаспадарак калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых і служачых, правядзенне кантрольнай праверкі ва ўсіх калгасах, учот і праверка ў натуры жывёлы гаспадарак дзяржаўна-каапературўнага сектара, а таксама ўчот гаспадарак жывёлы і пасеваў у гарадах і гарадскіх паселішчах, не ўлічваемых па лініі Райфа, складанне раённых ітогаў і даклад раённым дырэктыўным органам і КНГУ БССР аб выніках учота і становішчы жывёлагадоўлі ў раёне.

Каб выканаць гэту важнейшую работу, трэба спачатку яе арганізацыі ўзняць на адпаведную палітычную вышыню, з першых жа дзён мабілізаваць увагу грамадскасці, штодзённа ажыццяўляць Кіраўніцтва паасобнымі сельсоветамі, ні ў якім разе не пусціўшы яе на самацёк.

Ужо зараз неабходна раённым інспектурам сумесна з Райфа разгарнуць падрыхтоўку да правядзення гэтай важнейшай с/г кампаніі. Раённыя інспектуры ўжо маюць вялікі опыт, атрыманы пры правядзенні Усесаюзнага перапісу жывёлы. Неабходна дадатныя бакі перапісу зараз максімальна скарыстаць, адначасова не паўтараць памылак перапісу.

Падрыхтоўчая работа павінна заключацца ў правядзенні шырокай масава-растлумачальнай работы сярод усяго насельніцтва. Трэба дабіцца, каб ні адна галава жывёлы не была ўкрыта, трэба шырока растлумачыць яшчэ раз, што асобы дэзарганізуючыя ўчот і вінаватыя ў укрыцці жывёлы будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Асаблівая ўвага павінна быць звернута на падбор і інструктаж кадраў, бо якасць кадраў вырашае якасць учота. Зараз „кадры рашаюць усё“ (СТАЛІН).

Трэба дабіцца 100% ахопа ўчотам усіх аб'ектаў, але гэта яшчэ мала, галоўнае зараз заключаецца ў дасканальнай апрацоўцы матэрыялаў, правільным падліку і дачы адпаведнага аналіза. Студзеньскі перапіс жывёлы паказаў, што далёка не ўсе працаўнікі справіліся з гэтай задачай і нават пры арыфметычных падліках часта дапускалі памылкі.

Матэрыял чэрвеньскага ўчота павінен быць апрацован з максімальнай точнасцю. Кожную лічбу трэба дэталёва праверыць, прааналізіраваць, параўнаць з іншымі ўчотнымі данымі і даць вычэрпальнае тлумачэнне прычын змен, адбыўшыхся ў стадзе.

Неабходна памятаць, што чэрвеньскі ўчот 1935 г. паслужыць генеральнай праверкай таго, як паасобныя калгасы, соўгасы, сельсоветы, раёны выканалі дырэктыву партыі аб узняцці жывёлагадоўлі, як паасобныя кіраўнікі змагаюцца за лозунг т. СТАЛІНА „што праблема жывёлагадоўлі з‘яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая“.

*Р. Каральчук*

---

## Усім раённым і ўчастковым інспектарам наргасучота

### Копія: Старшыням міжраённых камісій па апрадзяленню ўраджайнасці.

У бягучым годзе аднымі з асноўных работ раённай і ўчастковай інспектур Наргасучота, ў галіне сельскай гаспадарк з‘яўляюцца:

1. Учот пасеўных плошчаў (заключная справаздача);
2. Вымярэнне ўраджаю на карню зернавых;
3. Аб‘ектыўнае вымярэнне ўраджаю лёну і бульбы;
4. Збіранне даных аб відах на ўраджай (выбарачна, прыкладна па 560—600 калгасах і 280 сельсоветах).

У пералічаных вышэй работах асабістая адказнасць за поўнату і дасканаласць матэрыялаў цалкам лажыцца на раённых і ўчастковых інспектароў НГУ. Арганізацыя сеці ўчастковай інспектуры дае поўную магчымасць своечасова і дакладна выконваць ускладзеныя на органы Наргасучота задачы і, безумоўна, у першую чаргу забяспечваючы высокую якасць прадукцыі.

Асаблівая роля ў гэтых працах ускладаецца на ўчастковую інспектуру НГУ—як на непасрэдных іх выканаўцаў.

Застаўшыйся час да разгортвання работ неабходна максімальна скарыстаць у напрамку падрыхтоўкі да іх і праверкі ступені падрыхтаванасці з боку соўгасаў, калгасаў, і с/советаў (інструктаж, забяспечанасць справаздачнымі бланкамі па пасеўкампаніі, замацаванне за ўпаўнаважанымі с/совета на час сельгаскампаніі гаспадарак аднаасобнікаў, калгаснікаў, рабочых і служачых дробных устаноў Дзяржсектара і г. д.

У мэтах забеспячэння якасці ўчотнага матэрыяла вясенняй пасеўкампаніі, неабходна вытварыць праверку становішча ўчота

аб ходзе севу ў 2-3 калгасах кожнага с/совета, пры неабходнасці і больш, а таксама і ў самім с/совеце, выпраўляючы на хаду сустракаючыяся недахопы і вядучы рашучую барацьбу з магчымымі выпадкамі очкаўцірацельства і наўмыснага ашукацельства дзяржавы шляхам праўвелічэння фактычна засеянай плошчы т. зв. „авансаў“, альбо ўкрыцце засеянай плошчы, звыш плана, прыцягваючы канкрэтных віноўнікаў да судовай адказнасці. За час пасеўкампаніі гэту работу неабходна вытварыць па меншай меры, двойчы, першы раз у самым пачатку севу, у другі раз—перад сканчэннем севу.

Пры складанні заключнай справаздачы аб вясенняй пасеўкампаніі 1935 г., неабходна дабіцца поўнага ахопу пасеўных плошчаў, маючыхся на тэрыторыі кожнага сельсовета на падставе: а) па калгасах—актаў абмеру ўчотна-кантрольных камісій, б) калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых і служачых, шляхам абхода двароў і асабістага апроса домагаспадарак і агульных сходаў грамадзян данага паселішча і в) па ўстановах і арганізацыях непасрэдна ад асоб, узначальваючых іх.

У адпаведнасці з гадавым планам работ на 1935 г. на ўчастковых інспектароў ускладаецца работа па збіранню даных па відам на ўраджай па калгасна-сялянскаму сектару. Нагляданне за відамі на ўраджай вядзецца кожным участковым інспектарам па 2-х калгасах і аднаму сельсовету (аднаасобны сектар) на працягу ўсяго вегетацыйнага перыяду.

Неабходна папярэдзіць аб той адказнасці, якая ўскладаецца на уч. інспектароў за работу па паведамленню данных аб відах на ўраджай па калгасна-сялянскаму сектару. Мэта гэтай работы—даць у распараджэнне Дзяржкамісіі па ўраджайнасці і органам Наргасучота матэрыялы для кантролю ацэнкі ўраджаю, даваемай калгасамі і сельсоветамі, выяўляць усе выпадкі наўмыснага сакрыцця і тым самым забяспечыць апрадзяленне правільнага размеру ўраджаю.

Ацэнкі аб відах на ўраджай па гэтых 2-х калгасах і аднаму с/совету прадстаўляюцца выключна на падставе асабістага нагляданя уч. інспектарам за становішчам пасеваў. Трэба памятаць, што яшчэ вельмі часта нашы калгасы даюць неправільную ацэнку відаў на ўраджай часамі таму, што неўважліва адносяцца да гэтай работы, а часамі і таму, што перадавяраюць яе класаваму ворагу, старанчамуся ашукаць пролетарскую дзяржаву. Пагэтаму нельга палагацца слепа на ацэнкі, якія дае калгас, а трэба яе грунтоўна праверыць і на падставе гэтай праверкі даць сваю ацэнку.

Па частке гэтых-жа калгасаў будзе вытварацца і вымярэнне ўраджаю на карню. Адгэтуль зусім ясна, што ўсе гэтыя работы могуць быць паспяхова выкананы толькі ў тым выпадку, калі інспектуры зараз-жа прыступяць да падрыхтоўкі, як у сэнсе

прапрацоўкі інструкцый па ўчоту пасеўных плошчаў і ўраджаю, так і арганізацыйных мерапрыемстваў і нарэшце матэрыялы будуць мець сваю каштоўнасць толькі тады, калі будуць прадстаўляцца чотка ў вызначаныя тэрміны.

Неабходна мець на ўвазе, што ўчастковыя інспектары, яшчэ не маючыя практычнага опыту, упершыню яшчэ сталкнуцца з гэтымі вельмі адказнымі і складанымі работамі і, зразумела, могуць быць паспяхова праведзены пры ўмове штодзённай і непасрэднай дапамогі і кантролю з боку інспектара НГУ і старшыні міжраённай камісіі па ўстанаўленню ўраджайнасці.

Участковыя інспектары, безумоўна, павінны трымаць непасрэдную сувязь з межрайкамісіямі, па ўсім пытанням арганізацыйнага парадку звярачвацца за дапамогай да іх, адкуль без сумнення атрымаюць канкрэтную дапамогу.

Старшыні межрайкамісіяй ураджайнасці павінны да пачатку работ азнаёміцца на мясцох з умовамі працы уч. інспектароў, дапамагаючы ў іх працы ў разгортванні намечаных работ.

Начальнік кіраўніцтва
Наргасучота БССР *Владзімірскі*

Упаўн. Цэнтр. Дзярж. Камісіі
па апрадзяленню ўраджайнасці
Пры СНК БССР *Нізаўцоў.*

18/ IV-1935 г.
г. Менск.

---

## Арганізацыйны план

### Работы па выбарачнаму вымярэнню ўраджаю на карню (збожжавых культур метроўкі). [1])

1. Работа ставіцца для атрымання выборачных даных аб ураджаю на карню, г. зн. аб ураджаі без страт у калгасах. Гэтыя даныя, будучы атрыманы ў самым пачатку ўборкі, даюць магчымасць упаўне точна ўстанавіць размеры ўраджаю, у адлічча ад даных аб відах на ўраджай, абгрунтаваных на суб'ектыўных ацэнках і маючых значныя няточнасці.

2. Работа па выборачнаму вымярэнню ўраджаю на карню ставіцца па заданню Цэнтральнай Дзяржаўнай Камісіі па апрадзяленню ўраджайнасці пры СНК Саюза ССР і праводзіцца органамі Наргасучота, якія нясуць поўную адказнасць за правядзенне яе, як у адносінах арганізацыі, так і ў адносінах якасці матэрыялаў вымярэння.

[1]) Арганізацыйны план ЦУНХУ Дзяржплана СССР даецца ў скарочаным відзе.

Органы ЦДК кантраліруюць выкананне органамі КНГУ ускладзеных на іх абавязкаў па данай рабоце.

Лік вымераемых калгасаў, а таксама парадак адбора іх і назвы вымяраемых культур былі ўказаны ў спецыяльным пісьме КНГУ БССР ад 23/IV-1935 г., усе ўказанні якого падлягаюць точнаму выкананню.

## Кадры, інструктаж, інструментарый.

4. Таксама, як і ў мінулыя гады, работа ў кожным калгасе праводзіцца ўпаўнаважанымі па вымярэнню ўраджаю на карню, якія цалкам павінны быць заняты гэтай аперацыяй і якім не павінна быць дана ніякіх паралельных альбо пабочных даручэнняў. Упаўнаважаны асабіста абавязан праводзіць работу ў полі з метроўкай, прыцягваючы сабе ў дапамогу калгаснікаў, а таксама піонераў, апошніх асобна пажадана скарыстаць пры абмалоце проб.

5. У мэтах найбольшага скарыстання пастаяннага штата работнікаў КНГУ і найбольш канкрэтнага, дзелавога азнаямлення яго з важнейшай аперацыяй па вымярэнню ўраджаю на карню, да гэтай работы, у якасці ўпаўнаважаных, у першую чаргу павінны быць прыцягнуты ўчастковыя інспектары. Уч. інспектар абавязкова праводзіць сам вымярэнне па адной культуры ў адным калгасе свайго ўчастка. У залежнасці ад мясцовых умоў (падрыхтаванасці асобных уч. інспектароў, агульнага аб'ёму метровачных работ, загружанасць уч. інспектароў іншымі работамі), магчыма назначэнне уч. інспектара ўпаўнаважаным не толькі на час правядзення вымярэння ўраджаю па адной культуры, але і на ўвесь час правядзення метровачных работ у адным калгасе (г. зн. правядзенне ім вымярэння па двум культурам).

6. У тых выпадках, калі уч. інспектар праводзіць вымярэнне толькі па аднэй культуры і для вымярэння другой культуры патрабуецца пасылка новага чалавека, к рабоце ў якасці ўпаўнаважаных прыцягваюцца работнікі з боку. У першую чаргу гэткіх трэба прыцягваць з мясцовых работнікаў участка (сельскія настаўнікі, комсамольцы і г. д.), альбо з ліку раённых работнікаў (зварачаючы ўвагу не на займаемую пасаду, а на палітычную і тэхнічную пісьменнасць і безумоўную акуратнасць у правядзенні работы).

Увага: У тых выпадках, калі ўчаст. інспектар праводзіць вымярэнне толькі па аднэй культуры, камандыруемы яму на змену ўпаўнаважаны для метравання другой культуры, павінен прыбыць у калгас за некалькі дзён да скан-

чэння работы уч. інспектарам, з тым, каб апошні мог абучыць новага ўпаўнаважанага аснаўным прыёмам работы на мейсцы.

7. Усе ўпаўнаважаныя павінны быць палітычна праверанымі і тэхнічна пісьменнымі людзьмі, каб яны маглі правільна правесці вымярэнне, растлумачыць калгаснікам задачы работы і зрабіць неабходныя практычныя вывады з атрыманых вынікаў (паставіць пытанне аб барацьбе з стратамі).

8. Усе ўпаўнаважаныя павінны быць дакладна праінструктаваны. Участковыя і раённыя інспектары на склікаемых усебеларускіх курсах—канферэнцыях, а ў выпадках прыцягнення ўпаўнаважаных з боку—праз райінспектароў. У тых выпадках, калі раённы інспектар у тым ці іншым раёне новы і ў мінулыя гады гэтыя работы не праводзіў, давяраць яму інструктаж упаўнаважаных не дазваляецца. У аснову інструктажа неабходна пакласці прапрацоўку інструкцыі з абавязковай практыкай ў полі.

Работа кожнага ўпаўнаважанага ў калгасе павінна быць праверана не менш 2-х раз.

Праверку праводзіць участковы інспектар (калі асабіста ім вымярэнне не праводзіцца), раённы інспектар Наргасучота і КНГУ БССР, якое на час вымярэння мае не менш 7—10 раз'ездных інспектароў.

Праверка работы ўпаўнаважанага павінна ісці як у адносінах своечасовасці правядзення работы (недапушчаць зняцця метровак да выспевання хлеба), так і якасці работы—недапушчэнне астаўлення калоссяў на метроўках, чыстаты абмалоту проб, своечасовай адсылкі картак па вымярэнню райінспектару і г. д.

Кожнае наведванне кантралёрам упаўнаважанага павінна суправаждацца складаннем акта, у якім неабходна зафіксіраваць стадыю работы па вымярэнню ў момант наведвання ўпаўнаважанага кантралёрам і замечаныя дэфекты ў рабоце ўпаўнаважанага.

Гэтыя акты райінспектарам накіроўваюцца ў КНГУ БССР па меры іх складання.

КНГУ БССР павінен скласці графік кантроля работы ўпаўнаважаных.

9. Метроўкі абавязкова павінны быць зроблены з моцнага дрэва і абавязкова замацаваны металічнымі угольнікамі; ізгатаўленне метровак вытвараецца КНГУ у г. Менску.

10. Інструкцыя, карткі для запісу вынікаў вымярэння з запоўненымі звесткамі, у адпаведнасці з інструкцыяй ЦУНХУ (указанне аб колькасці метровак, аб інтэрвалах, праз якія бяруцца метроўкі) перадаюцца ўпаўнаважаным—райінспектарамі.

11. Для апрадзялення вільгаці і натуры зерна раённы інспектар загадзя лавінен дагаварыцца з адпаведнымі арганізацыямі (раённымі альбо МТС лабараторыямі).

12. Работа па вымярэнню ўраджаю на карню скарыстоўваецца як для ўстанаўлення ўраджаю, так і для арганізацыі барацьбы з стратамі хлеба, размеры якіх могуць быць устаноўлены шляхам параўнання даных вымярэння і размераў ураджаю калгаса, дзе было праведзена вымярэнне.

Колькасць калгасаў, у якіх праводзіцца вымярэнне ўраджаю на карню, дастаткова толькі для атрымання сярэдне-рэспубліканскай лічбы ўраджаю і ні ў якім выпадку не могуць быць скарыстаны для атрымання сярэдняга ўраджаю па раёну.

Пачынаючы з 1-га чэрвеня раёны сістэматычна кожныя 10 дзён інфарміруюць КНГУ БССР аб ходзе падрыхтоўкі работ, абавязкова асвятляючы наступныя пытанні: ход укамплектавання работнікаў для правядзення вымярэння, забяспечанасць бланкамі, інструкцыямі, метроўкамі. Пачатак работ па вымярэнню паведамляецца тэлеграфна. З моманта пачатку работ неабходна паведамляць у с/г сектар КНГУ аб усіх выпадках нездавальняючага правядзення работ.

Работа па вымярэнню ўраджаю можа быць паспяхова выканана толькі пры ўмове чоткай высокаякаснай работы ўсіх звенняў апарата КНГУ, пачынаючы з апарата рэспублікі да ўпаўнаважанага (метроўшчыка). Пагэтаму, удзельнікі работы па вымярэнню павінны ў аснову сваей работы пакласці метады соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Для прэміравання лепшых КНГУ і раённых і ўчастк. інспектароў—ЦУНХУ СССР вылучыла фонд прэміравання ў размеры 15000 руб. КНГУ БССР у сваю чаргу з крэдытаў на вымярэнне вылучае таксама фонд для прэміравання лепшых ударнікаў раённых і ўчастковых інспектароў і метроўшчыкаў.

## Кантроль паступаючых картак

1. Неабходна забяспечыць дасканалы кантроль картак з боку раённых інспектароў Наргасучота. Картка павінна быць запоўнена і праверана з захоўваннем усіх указанняў інструкцыі.

2. Перад распрацоўкай у КНГУ ўсе карткі падлягаюць паўторнаму кантролю. Асабліва дасканала кантраліруюцца падзелы карткі, якія звязаны з устанаўленнем размеру ўраджаю на карню.

3. Шляхам дзялення агульнай вагі зерна (п. 10 карткі) на лік узятых проб уключая і пустыя метроўкі (п. 8), правяраецца сярэдняя вага зерна аднэй метроўкі (п. 11 карткі).

4. Выходзячы з сярэдняй вагі зерна (п. 11) правяраюць даныя аб ураджаю на карню (п. 12)—(ураджай на карню ў цэнт-

нерах з га = сярэдняй вазе зерна з метроўкі ў грамах, падзеленаму на дзесяць).

5. Неабходна райінспектару ўстанавіць якасць праведзенай работы (у даным калгасе) на падставе наступных даных:

а) агульная характарыстыка работы, якая дана кантралёрам (п. 23 карткі);

б) характарыстыка работы і заўвагі старшыні калгасу (п. 17 карткі);

в) якасць работы і заўвагі, указаныя ў акце кантралёра, якія складзены пры праверке работы метроўшчыка па вымярэнню ўраджаю ў даным калгасе, альбо ў акце раённага інспектара;

г) якасць работы і заўвагі, указаныя ў акце кантралёра, якія складзены пры праверцы работы метроўшчыка па вымярэнню ўраджаю ў даным калгасе, альбо ў акце раённага інспектара, які ім складзен у тым выпадку, калі старшыня калгасу не згодзен з размерам ураджаю на падставе вымярэння.

6. Пры наяўнасці сур'ёзных дэфектаў, якія былі выяўлены пры правядзенні данай работы (зрэзанне зялёных каласоў у вялікай колькасці страты альбо пакражы каласоў і зерна, нечыстае зрэзанне, нечысты абмалот і г. д.)—картка павінна быць забракавана.

7. Па мёры паступлення даных аб абмалотах у метруемых калгасах, даныя аб ураджаі на карню параўнаюцца з ураджаем па абмалотам па кожнай картцы (па ф. IV гл. ніжэй).

Усе выпадкі, калі абмалочаная плошча правышае 50—60% усей плошчы і вынікі параўнання абмалотаў з ураджаем на карню паказваюць, што ўраджай па абмалотам значна ніжэй ураджаю на карню, (напрыклад, калі разрыў больш 15%), альбо наадварот, калі ўраджай па абмалотам равен альбо вышэй ураджаю па метроўкам, павінна быць праверана на месцы і пасля такой праверкі картка можа быць забракована, калі выявіцца, што прычынай разрыву з'яўляецца недобраякаснае правядзенне метровак.

8. Для дадатковай характарыстыкі якасці праведзенай работы могуць быць скарыстованы наступныя звесткі з карткі:

а) *час зрэзання метровак* (п. п. 14, 15 і 16 карткі). Калі метроўкі пачалі браць значна раней да пачатку ўборкі і калі маюцца звесткі на тое, што зрэзалі зялёны хлеб (напрыклад у п. 22-А), то гэтая картка павінна быць забракавана;

б) *параўнанне ўраджаю на карню (п. 12 карткі) з ацэнкамі ўраджаю па справаздачнасці калгаса (па паведамленню калгаса і ўстаноўлена Райзо—п. 18 карткі).* Усе карткі, дзе ўраджай на карню значна ніжэй ацэнак калгасу, ці Райзо, даваемых на працягу лета, неабходна дасканала праверыць;

в) *ахоп вымярэннем плошчы пасеву* (п. 3 і 4 карткі). Калі вымярэнне праведзена не па ўсей плошчы, то ў такім вы-

падку неабходна высветліць прычыны непоўнага ахопу вымярэннем плошчы пасеву.

У асноўным магчымы наступныя выпадкі:

1. Метроўшчык прыехаў у калгас з спазненнем, альбо па якім небудзь іншым прычынам не паспеў зняць метроўкі перад пачаткам уборкі на асобных участках.

У гэтым выпадку картка поўнасцю не бракуецца.

2. Плошча вымярэння можа адрознівацца ад агульнай плошчы пасеву і ў тым выпадку, калі метроўкі не ўзяты з плошчы пасеву, якая поўнасцю пагібла на працягу летняга перыяду (не будзе ўбірацца на зерно, аб чым складзен акт, які прыкладзен да карткі. Гл. § 9 інструкцыі) У гэтым выпадку неабходна ўстанавіць ураджай на карню ў пераліку на вясенне ўцалеўшую плошчу. Для гэтага валавы збор, атрыманы ад памнажэння ўраджаю на карню на плошчу ўборкі трэба падзяліць на ўсю плошчу пасева (п. 3 карткі). Выпраўленне ўносіцца ў картку.

> Увага: У тым выпадку, калі розніца па п. п. 3 і 4 здарылась па абодвым указаным вышэй абставінам, то валавы збор неабходна вылічыць на ўсю плошчу за выключэннем пагібшай.

г) *Выкананне плана работы па колькасці ўзятых проб.* Калі фактычна ўзятая колькасць проб—метровак (п. 8) некалькі адрозніваецца ад колькасці проб, устаноўленых па плану (п. 7), то адзін гэты прызнак не павінен служыць падставай да таго, каб забракаваць картку. Але, калі ўзятая колькасць проб рэзка зніжана супроць плана, што сведчыць аб парушэнні ўстаноўленага парадку адбора проб (напрыклад, замест 300 проб узята толькі 20—30), то такая картка бракуецца.

д) *Вільгаць зярна.* Калі вільгаць зярна, сабранага з метровак (п. 19 карткі) больш чым на 2% адрозніваецца ад сярэдняй вільгаці зярна, здаваемага на загатавіцельныя пункты, то ў такім выпадку неабходна к устаноўленаму ўраджаю ўнесці папраўку на вільгаць на падставе наступнай формулы:

$$У = У_1 \cdot \frac{100 - p1}{100 - p0}$$

дзе У—ураджай на карню з папраўкай на вільгаць,

$У_1$—ураджай на карню (п. 12 карткі), які быў атрыман пры вымярэнні.

р0—сярэдняя вільгаць зярна, здаваемага на загатавіцельныя пункты, а р1—вільгаць зярна ўказаная ў п. 19 карткі.

Прыклад. Ураджай на карню быў устаноўлен у 14,0 цнт. з га і вільгаць зярна з метровак у 12%. Няхай сярэдняя

вільгаць зярна здаваемага на заготпункты 16%. Які будзе размер ураджаю на карню пры 16%-най вільгаці.

$$\text{Відавочна, што } У = 14{,}0 \frac{100 - 12}{100 - 16} = 14{,}7 \text{ цнт. з га.}$$

І так, ураджай на карню з папраўкай на вільгаць складае 14,7 цнт. з га.

Выпраўлены ўраджай (на вільгаць) запісваецца ў картку.

Гэты падзел можа быць таксама скарыстан для дадатковай характарыстыкі якасці праведзенай работы—так напрыклад, пры вельмі нізкім проценце вільгаці зярна неабходна высветліць, якія прымянялі спосабы сушкі калоссеў у даным калгасе (ці не было сушкі ў печцы, на печцы, у еўне і г. д.).

9. *Для агульнай характарыстыкі работы раёна,* апрача колькасці поўнасцю забракаваных картак, улічваецца таксама і колькасць картак, маючых тыя ці іншыя дэфекты.

10. Райінспектары складаюць зводку тры разы ў месяц: на 1, 10 і 20 число ў перыяд абмалотаў па калгасах, дзе праводзілася вымярэнне ўраджаю на карню па наступнай форме:

*Форма № IV.*

**Параўнанне даных аб ураджаі на карню з вынікамі абмалоту**

| Назва к-гасаў | Плошча вымярэння (га) | Ураджай на карню (цнт. з га) | Ураджай па абмалотам | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | На . . чыс. м-ца | | На . . чыс. м-ца | | На . . чыс. м-ца | |
| | | | Абмалоч. плошча | Сярэдні намалот з га | Абмалоч. плошча | Сярэдні намал. з га | Абмалоч. плошча | Сярэдні намал. з га. |
| | | | | | | | | |

Па сканчэнні абмалотаў райінспектар складае канчатковую зводку па ф. IV, адначасова прадстаўляе тлумачальную запіску, у якой даецца падрабязнае асвятленне арганізацыі работы па вымярэнню ўраджаю на карню, складу ўпаўнаважаных, праводзячых вымярэнне, якасці прадстаўляемага матэрыяла і г. д.

„Зацверджаю“
Нам. начальніка ЦКНГУ Дзяржплана
СССР—*Папоў*

# Усесаюзная нарада па ўчоту культурнага будаўніцтва 10—12 сакавіка 1935 г.

## Роля раённай і ўчастковай інспектуры ў галіне ўчота культурнага будаўніцтва. (дакл. т. Багданава).

1. Арганізацыя ўчастковай інспектуры мае выключнае значэнне ў барацьбе за паўнату і правільнасць учота ў галіне культурнага будаўніцтва, за суровую ўчотную дысцыпліну сярод работнікаў шматлікай і надта рознастайнай сеці культасветных устаноў.

Магчымасці шырока скарыстоўваць інспектуру наргасучота пры правядзенні ўчотна-статыстычных работ па культурнаму будаўніцтву асобна спрыяе тое, што работы гэтыя ў асноўным праводзяцца ў асенні і зімовы перыяд, найбольш свабодны для інспектуры ад іншых заданняў ЦКНГУ.

2. Удзел участковай інспектуры ва ўчотна-статыстычнай рабоце па народнай асвеце ажыццяўляецца ў наступных напрамках:

а) наглядання за становішчам і зменамі сеці ўсіх існуючых на тэрыторыі ўчастка культасветных устаноў;

б) кантроль за выкананнем гэтымі ўстановамі сваіх абавязкаў па складанню адчотнасці і адсылкі яе ва ўстаноўлены тэрмін;

в) праверка якасці запаўнення адчотнасці — абгрунтаванасці даных первічнай дакументацыей, якая вядзецца ва ўстановах і

г) непасрэднае правядзенне абследванняў і ўчотаў, якія ажыццяўляюцца органамі ЦКНГУ па ўласнаму інструментарыю.

3. Цэнтральнай учотна-статыстычнай аперацыяй, у якой удзельнічае ўчастковая інспектура наргасучота, з'яўляецца кантрольны ўчот народнай асветы.

На ўчастковую інспектуру ўскладаецца пры правядзенні гэтага ўчота галоўная і адказная задача правільна і найбольш поўна адлюстраваць існуючую сецъ культасветных устаноў.

У гэтых мэтах участковыя інспектары вядуць бягучыя тытульныя спісы устаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі абслугоўваемых імі сельскіх советаў і паказваюць у спісах назвы і тып устаноў, падпарадкаванасць і адрас. Па дашкольным установам акрамя гэтага ўказваецца лік дзяцей, а па школам усенавуча—лік вучняў згодна прадстаўляемай установамі адчотнасці. У гэтых спісах рэгіструюцца ўсе адбываючыяся змены сеці—адчыненне новых устаноў, зачыненне альбо ператварэнне існуючых.

На вызначаную кантрольную дату спісы вывяраюцца і паведамляюцца райінспектуры для далейшага скарыстання: па летнім дзіцячым пляцоўкам і лагерам на 15/VII, па школам усенавуча—15/X і па ўсім астатнім культасветным установам—1/XII.

Увага: Для вядзення тытульных спісаў участковы інспектар снабжаецца спецыяльным сшыткам-журналам.

Райінспектура на падставе непасрэдных матэрыялаў участковай інспектуры правярае тытульныя спісы кантрольнага ўчота, якія складаюцца згодна інструкцыі аб кантрольным учоце, у РайАНА (па ўстановам, падпарадкаваным РайАНА) і ў другіх раённых арганізацыях.

4. Раённая інспектура з'яўляецца цэнтрам, куды паступаюць, прыводзяцца ў сістэму і захоўваюцца спісы з мінімумам асноўных паказчыкаў усіх існуючых у раёне культасветных установ, незалежна ад іх падпарадкаванасці.

Аб'ём звестак, якімі распалагае раённая інспектура, вызначаецца зместам раздзела „Асвета“ зацверджаных ЦКНГУ асноўных паказчыкаў выканання народна-гаспадарчага плана раёна, існуючымі спісамі і зводкамі кантрольнага ўчота і тымі дадатковымі ўказаннямі, якія даны будуць ЦКНГУ па сістэматызацыі ўчотна-статыстычных даных, характэрызуючых культурны профіль (пашпарт) раёна.

5. Кантрольна-спісачны ўчот у інспектуры наргасучота з'яўляецца сродкам у барацьбе за ўчотную дысцыпліну сярод кіраўнікоў установ народнай асветы. Пры праверцы спісаў кантрольнага ўчота па ўстановам, падпарадкаваным РайАНА альбо іншым раённым органам, раённай інспектурай устанаўліваюцца ўстановы, якія не прадставілі адчотнасць, акрамя гэтага выяўляецца праз участковую інспектуру канкрэтныя віноўнікі непрадстаўлення адчотнасці, якія прыцягваюцца згодна існуючаму парадку да дысцыплінарнай адказнасці.

6. Па ўстановам, непадпарадкаваным раённым арганізацыям (ВНУ, Тэхнікумы, навукова-даследчыя ўстановы і г. д.) раённы інспектар Наргасучота атрымоўвае копію адпаведнай адчотнасці і пасля дасканалага кантроля і выбаркі для патрэб РайНГУ асноўных даных накіроўвае атрыманую копію адчотнасці ў краевыя (обл.) КНГУ. Для наглядання за своечасовым прадстаўленнем адчотнасці гэтымі ўстановамі райінспектар мае табель устаноўленай адчотнасці.

7. Кантроль якасці прадстаўляемай адчотнасці ажыццяўляецца:

а) у адносіне адпаведнасці прадстаўляемых даных фактычным запісам первічных дакументаў;

б) у адносіне паўнаты запаўнення адчотных бланкаў і

в) у адносіне арыфметычнай правільнасці лічбовых ітогаў адчота.

Гэты кантроль вядзецца ўчастковай інспектурай па ўсім первічным устаномам народнай асветы па падпарадкаваным раённым органам і знаходзячыхся на тэрыторыі, абслугоўваемых імі сельсоветаў, а раённай інспектурай у адносіне ўстаноў не падпарадкаваных раённым органам, а таксама ў адносіне адчотнасці раённых органаў і ў першую чаргу ў адносіне адчотнасці РВК складаемай РайАНА і абавязкова ў перыяды складання адчотнасці згодна табелю.

Аб заўважаных скажэннях і непарадках у адчотнасці інспектура робіць заўвагі адказным за гэту справу асобам, а ў неабходных выпадках складае акты аб прыцягненні вінаватых да адказнасці.

8. Работа ўчастковага раённага інспектара па ўчоту культурнага будаўніцтва прадугледжваецца графікам і календарным планам яго работ, зацверджаным адпаведным КНГУ.

У схему гэтага графіка павінны ўвайсці наступныя моманты бягучай работы інспектуры і ўсе работы па спецыяльным планавым заданням ЦКНГУ.

| Месяцы | Работа раённага інспектара | Работа ўчастковага інспектара |
|---|---|---|
| Студзень-Люты | · Выверка спісаў па ўстановам падрыхтоўкі кадраў на 1/I, выверка спісаў і зводка па стацыянарным дасаў установам, установам паліт-асветы. Збіранне, праверка і перасылка ў Обл. (край) КНГУ бланкаў гадавой адчотнасці па ўстановам падрыхтоўкі кадраў, навукова-даследчых устаноў і па друку.<br>Праверка своечасовасці і якасці складання РайАНА гадавой адчотнасці па дашкольным установам, клубным установам, бібліятэкам, аб кадрах працуючых у органах і ўстановах народнай асветы. | Збіранне і перасылка райінспектару бланка гадавой адчотнасці па друку.<br>Праверка своечасовасці і якасці запаўнення культасветнымі точкамі гадавой адчотнасці і вядзення первічнай дакументацыі.<br>Выкананне заданняў райінспектуры па ўдасканаленню даных кантрольнага ўчота. |
| Май-Чэрвень | Рассылка і збіранне па школам усенавуча бланкаў абследвання па вывучэнню якасных паказчыкаў работы. Удасканаленне спіса газет, рассылка бланкаў полугадавога адчота газет. | Складанне ў другой палове чэрвеня спіса дзіцячых пляцовак і лагерэй.<br>Нагляд за правядзеннем учота дзяцей школьнага ўзроста. |
| Ліпень | Удасканаленне спіса дзіцячых пляцовак і лагерэй і правядзенне па ім кантрольнага ўчота дзіцячых пляцовак. | |

| Месяцы | Работа раённага інспектара | Работа ўчастковага інспектара |
|---|---|---|
| | Збіранне, праверка і адсылка ў край (обл.) КНГУ бланкаў поўгадовага адчота газет. Праверка адчотнасці РайАНА па дзіцячым пляцоўкам на 15 ліпеня. | |
| Верасень Кастрычнік Лістапад | Праверка адчотнасці РайАНА па начальным і сярэднім школам па становішчу пачатка навучальнага года. Правядзенне кантрольнага ўчота па начальным сярэднім школам, складанне спісаў і зводак і адсылка іх у край КНГУ. | Удасканаленне і перасылка ў РайКНГУ спіска школ на новы навучальны год. |
| Снежань. | Праверка вядзення па ўстановам народнай асветы первічнай дакументацыі. Складанне ў другой палове снежня і выверка адсылкі ў РайНГУ іменных спісаў стацыянарных дашкольных устаноў, устаноў палітасветы і падрыхтоўкі кадраў. Удасканаленне спісаў па газетам, рассылка бланкаў гадавога адчота па нізавым газетам. | |

Каляндарны план работы ўстанаўляецца КНГУ выходзячы з мясцовых умоў.

9. Раённы інспектар наглядае за тым, каб планамі ўчотна-статыстычных работ РайАНА і другіх раённых арганізацый, маючых у сваей падпарадкаванасці культасветныя ўстановы (Райпрофсоветы і інш.) было забяспечана (поўнасцю ва ўстаноўлены тэрмін) прадстаўленне адчотнасці і каб не было ніякай незацверджанай адчотнасці.

10. Раённы інспектар ажыццяўляе нагляд за ходам адчотнасці РайАНА, наглядае каб зацверджаныя, згодна пастановы ЦВК і СНК СССР, пасады статыстыкаў РайАНА былі скарыстованы па прызначэнню ў адпаведнасці з зацверджаным Наркамасветы палажэннем.

Аб парушэнні гэтай пастановы і скарыстанні статыстыкаў на выкананне іншых абавязкаў ва ўшчэрб учотнай работы, інспектар даводзіць да ведама старшыні РВК, ставіць пытанне у неабходных выпадках аб прыцягненні віноўных у гэтым да адказнасці і аднačасова паведамляе аб гэтым КНГУ.

## Аб рабоце раённых і ўчастковых інспектур

Арганізацыя ўчастковых інспектур, складанасць работ (перапісы, абследванні і інш.), неабходнасць узмацнення тэмпаў работы і палепшання якасці іх, настойліва патрабуюць перабудовы работы органаў Наргасучота ў раёнах, чоткай арганізацыі работ, падбора адпаведных кадраў і правільнай растаноўкі сіл. Аднак, як высветлена пры абследванні раёнаў (Прапойскі і інш.), наглядаюцца такія факты:

а) выпадкі зусім безадказных і нядбайных адносін з боку ўчастковых інспектароў да даручанай ім работы: участковыя інспектары выязджаюць на ўчастак у сельсоветы і калгасы не вывучыўшы дасканала бланкаў, форм і інструкцый да іх і не высвятліўшы ў райінспектуры ўсіх незразумелых для іх пытанняў па кожнай рабоце, у выніку чаго ўчастковыя інспектары часам не могуць даць належнага інструктажу і ўказанняў работнікам сельсоветаў і калгасаў, а калі самі праводзяць перапісы альбо абследванні, то прывозяць у райінспектуру вельмі дрэнны матэрыял. Маюць мейсца і такія выпадкі, калі ўчастковыя інспектары абмяжоўваюцца фармальным наведваннем сельсовета для таго, каб скласці толькі акт і хутчэй вярнуцца ў раённы цэнтр, замест таго, каб весці сістэматычную штодзенную работу на ўчастку па нагляду за ўнядрэннем первічнага ўчота ва ўсіх сельсоветах;

б) участковыя інспектары ніяк не могуць замацавацца стала на сваіх участках і ўсвядоміць сабе, што іх мейсцы ў вызначаных цэнтрах участкаў, а не ў райінспектуры; часта прыязджаюць без патрэбы ў раённы цэнтр (на базар) у той час, калі яны павінны быць на мейсцы, на сваіх участках;

в) недастатковая чоткасць і планавасць у рабоце ўчастковых інспектароў: яны часта выязджаюць на ўчастак па асобным пытанням і работам у той час, калі перш чым выехаць на ўчастак неабходна сабраць усе пытанні, якія трэба вырашыць у сельсоветах альбо калгасах (первічны ўчот, рэгістрацыя будаўніцтва, квартальныя справаздачы калгасных форм, карткі па ўчоту працы ад соўгасаў і г. д.), намеціць і ўзгадніць з райінспектарам тэрміны правядзення работ па ўчастку;

г) зусім слабая выхаваўчая работа райінспектароў з участковымі інспектарамі, загрузка іх работай у апараце райінспектуры з адрывам ад сваей непасрэднай работы на ўчастку.

Усе паказаныя моманты вельмі адбіваюцца на рабоце раённых органаў Наргасучота, на своечасовым прадастаўленні матэрыялаў і якасці апошніх, а таму неабходна зараз жа прыняць меры да знішчэння гэтых недахопаў.

Райінспектар у сваей рабоце павінен апірацца на ўчастковых інспектароў, якія нясуць поўную адказнасць за свой

участак. Па ўсім прарывам на сваім участку (па первічнаму ўчоту ў сельсоветах, па атрыманню квартальных справаздач ад калгасных ферм і інш.) участковы інспектар нясе адказнасць як перад Кіраўніцтвам Наргасучота, так і перад Прэзідыумам Райвыканкома.

Участковы інспектар здолее забяспечыць належную пастаноўку ўчота ў сельсоветах і калгасах толькі ўпартай сістэматычнай работай на сваім участку. Ад таго, наколькі ўчастковы інспектар зможа дапамагчы сельсоветам і калгасам (інструктаж, дача ўказанняў і праверка) па наладжванню ўчота будзе ўздымацца і аўтарытэт самога ўчастковага інспектара.

Райінспектарам неабходна дасканала прапрацаваць з участковымі інспектарамі спушчаны Кіраўніцтвам Наргасучота квартальны план работ для іх і на падставе гэтага плана распрацаваць календарныя планы работ для кожнага ўчастковага інспектара.

Таксама райінспектарам неабходна абавязкова правяраць работу ўчастковых інспектароў на мейсцы ў сельсоветах і калгасах. Для ўчота работы ўчастковых інспектароў павінны быць заведзены дненўнікі згодна ўказанняў Кіраўніцтва Наргасучота.

Паколькі зараз „кадры вырашаюць усё“ — райінспектарам неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на падбор адпаведных кадраў і ўзмацненне выхаваўчай работы з участковымі інспектарамі, каб выкаваць з іх работнікаў, сапраўды здольных да выканання тых вельмі важных задач, якія ўскладаюцца партыяй і ўрадам на органы Наргасучота.

*К. Буйко.*

---

## Агляд работы райінспектур

**(па матэрыялам абследвання)**

### Крычаўскі раён

План работ за 1934 г. райінспектурай выканан па ўсім работам, за выключэннем рэгістрацыі будаўніцтва.

Справы на 1935 г. заведзены і за 1934 г. упарадкаваны.

Апарат райінспектуры і ўчастковай інспектуры ўкамплектаваны поўнасцю.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну вядзецца і кан'юктура прадстаўляецца кіруючым органам раёна.

Ячэйка ВОСУ маецца на цэментным заводзе.

Пры праверцы пастаноўкі первічнага ўчота ў 3-х сельсоветах выяўлена, што ў Бацэвічскім сельсовеце ўчот пастаўлен добра, а ў Баеўскім і Малявіцкім сельсоветах учот заведзен няпоўнасцю.

Па работам райінспектуры маюцца прарывы па квартальнай справаздачнасці калгасных ферм і па рэгістрацыі будаўніцтва, якія (прарывы) неабходна ліквідаваць у бліжэйшы час.

## Горацкі раён

План работ за 1934 г. райінспектурай выканан.

Справы на 1935 г. заведзены і знаходзяцца ў належным парадку.

Апарат раённай і ўчастковай інспектуры ўкамплектаван поўнасцю.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну не вядзецца і кан'юктурныя агляды кіруючым органам раёна не прадстаўляюцца.

Кнігі первічнага ўчота, у некаторых сельсоветах заведзены яшчэ няпоўнасцю. Неабходна райінспектуры ўзмацніць работу па праверцы пастаноўкі первічнага ўчота ў сельсоветах.

Ячэйка ВОСУ арганізавана, але-ж работу разгарнула яшчэ недастаткова.

Райінспектурай узята шэфства над Дрыбінскай райінспектурай. Па райінспектуры маюцца прарывы па некаторым работам (гадавая справаздача ОРС'а, рэгістрацыя будаўніцтва і інш.).

## Плешчаніцкі раён

План работ за 1934 г. райінспектурай не выканан. Маецца рад прарываў і па работам бягучага года (квартальныя справаздачы па калгасным фермам, рэгістрацыя будаўніцтва, па ўчоту працы ў прамысловасці і інш.). На рабоце райінспектуры вельмі адбівалася адсутнасць да апошняга часу раённага інспектара.

Справы на 1935 г. заведзены і за 1934 г. упарадкаваны.

Участковая інспектура ўкамплектавана поўнасцю.

Первічны ўчот заведзен у сельсоветах няпоўнасцю. Слаба вядзецца работа з боку райінспектуры па праверцы первічнага ўчота ў сельсоветах і пастаноўцы яго на належную вышыню.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну не вядзецца і кан'юктура кіруючым органам раёна не прадстаўляецца.

## Бярэзінскі раён.

Справы за 1934 г. упарадкаваны. За 1935 г. паперы знаходзяцца ў папках, але не падшыты. Архіў асобна не вылучан. У шафе, дзе захоўваюцца справы, поўны беспарадак і таму цяжка знайсці хутка патрэбны матэрыял.

Размеркавання абавязкаў паміж работнікамі райінспектуры няма. Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну не вядзецца і кан'юнктурныя агляды для кіруючых органаў раёна не складаюцца. Первічны ўчот у сельсоветах пастаўлен недастаткова. Райінспектура мала займалася праверкай учота ў сельсоветах. Барацьба за ўчотную дысцыпліну райінспектурай вядзецца слаба.

Па работам райінспектуры маюцца значныя прарывы (рэгістрацыя будаўніцтва, сельсовецкі ўчот, натуральны рух насельніцтва, гадавыя справаздачы соўгасаў, квартальныя справаздачы па калгасным фермам і інш.).

Грамадская работа па ўнядрэнню ўчота не праводзіцца.

---

## Пастанова

### Прэзідыума Бабруйскага Раённага Выканаўчага камітэта

*ад 2-IV-1935 г.*

Заслухаўшы інфармацыю інспектара Наргасучота т. Ляўковіча аб становішчы ўчота ў сельсоветах і падрыхтоўцы да ўчота хода вясенняй сяўбы, Прэзідыум Бабруйскага Райвыканкома адзначае, што па раду сельсоветаў учот яшчэ не наладжан (Осаўскі, Хімоўскі і Каменскі сельсоветы), некаторыя сакратары сельсоветаў лічаць работу па наладжванню ўсяго ўчота ў сельсовеце другараднай справай, а старшыні гэтых сельсоветаў не звяртаюць на гэта ніякай увагі (Бортнікі—сакратар Шчаглоў, старшыня Лапухін).

Усё гэта ставіць пад пагрозу арганізацыю чоткага і своечасовага аператыўнага ўчота хода вясенняй сяўбы.

Выходзячы з гэтага, Прэзідыум Райвыканкома пастанаўляе:

1. Папярэдзіць старшынь і сакратароў тых сельсоветаў, у якіх да гэтага часу поўнасцю не заведзены кнігі первічнага сельсовецкага ўчота, што калі гэта работа не будзе скончана на працягу 7 дзён, яны асабіста будуць прыцягнуты да адказнасці па закону.

2. Устанавіць, што ўчот хода вясенняй сяўбы ў сельсовеце павінен быць заведзен па строга ўстаноўленых формах учота (формы № 17, 18 і справаздача па форме № 3), у цвёрда ўстаноўленыя тэрміны і, што за парушэнне як форм учота і тэрмінаў справаздачнасці, так і за здачу няправільных звестак старшыня і сакратар сельсовета нясуць персанальную адказнасць у крымінальным парадку.

3. Даручыць інспектару Наргасучота т. Ляўковічу сістэматычна правяраць становішча ўчота хода сяўбы па сельсоветах

і аб усякіх момантах парушэння гэтай пастановы неадкладна дакладваць Прэзідыуму РВК.

4. Для дапамогі сельсоветам у арганізацыі чоткага, своечасовага і аператыўнага ўчота хода вясенняй сяўбы, а таксама для наладжвання первічнага сельсовецкага ўчота мабілізаваць з гарадскіх устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый 16 работнікаў на ўвесь час вясенняй сяўбы.

Даручыць т. Ляўковічу і інспектару ўчота Райза т. Кустановіч дэталёва праінструктаваць мабілізаваных работнікаў і замацаваць за кожным з іх 1 сельсовет, усклаўшы на іх аднолькавую адказнасць з работнікамі сельсоветаў за гэту работу.

5. Прапанаваць кіраўнікам устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый, з якіх мабілізаваны работнікі, вызваліць іх ад асноўнай работы па першаму трэбаванню РВК з поўным захаваннем за імі зарплаты і накіраваць у распараджэнне РВК.

6. Аб выкананні гэтай пастановы заслухаць на Прэзідыуме РВК 9 красавіка 1935 года паведамленне інспектара Наргасучота т. Ляўковіча.

Старшыня РВК *Царонак.*

Сакратар РВК *Кожэмякін.*

---

## Пастанова

### Прэзідыума Гомельскага Гарадскога Совета

*ад 3 мая 1935 г.*

### Аб становішчы вядзення кніг первічнай дакументацыі ў сельсоветах Гомельскага раёна.

На працягу сакавіка месяца Інспектурай Наргасучота праверана па раду сельсоветаў (Бабовіцкі, Жаробінскі, Міхалькоўскі, Стара-Дзятлавіцкі, Карналінскі і інш.) вядзенне кніг первічнай дакументацыі.

Абследванне выявіла, што вядзенне кніг па сельсоветам у 1935 г. пастаўлена лепш, чым у 1934 г. Але-ж, калі па Бабовіцкаму і Сеўрукоўскаму сельсоветам первічны ўчот быў наладжан, то па Ст.-Дзятлавіцкаму сельсовету кнігі зусім не былі яшчэ заведзены.

Пасля гэтага абследвання ўсім сельсоветам была спушчана дырэктыва за подпісам Нам. Старшыні Горсовета т. Антонава аб абавязковым заканчэнні завядзення кніг да 20 сакавіка, але праверка, зробленая Інспектурай Наргасучота ў красавіку месяцы

паказала, што Пакалюбіцкі, Прудкоўскі і Яроменскі сельсоветы кніг да гэтага часу не завялі.

Нездавальняючая пастаноўка ўчота ў некаторых сельсоветах сведчыць аб недаацэнцы справы ўчота з боку старшынь гэтых сельсоветаў невыконваючых дырэктыў аб арганізацыі правільнага ўчота.

Маючы на ўвазе, што падатковы ўчот аб'ектаў абкладання у чэрвені месяцы г/г. будзе налічвацца на падставе пагаспадарчых кніг первічнага сельсовецкага ўчота і, што дрэннае становішча сельсовецкага ўчота можа сарваць налічэнне с/г. падатка, Прэзідыум Гомельскага Горсовета Пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама заяву Інспектара Наргасучота, што справа аб сакратары Пакалюбіцкага с/с. перададзена Пракурору.

За незавядзенне первічнай дакументацыі ў сельсоветах абвясціць вымову старшыні Пакалюбіцкага сельсовета т. *Шрэмаву* і аштрафаваць на 25 р. сакратара Прудкоўскага сельсовета т. *Чарнякова*.

2. Прапанаваць усім сельсоветам пад асабістую адказнасць старшынь, да 12 мая поўнасцю занесці ўсе неабходныя весткі ў кнігі ф. 2-а, 2-б і I, і папярэдзіць іх у апошні раз, што пры неналаджванні первічнага ўчота ў сельсоветах яны будуць прыцягнуты да суровай адказнасці.

3. Заслухаць 14 мая на паседжанні Прэзідыума Горсовета даклады старшынь Ціценскага, Пакалюбіцкага, Яромінскага і Клімаўскага сельсоветаў аб становішчы первічнай дакументацыі ў іх.

4. Інспектару Наргасучота да 14 мая абследваць выклікаемыя на Прэзідыум сельсовета і сваё заключэнне таксама прадставіць на паседжанне Прэзідыума.

5. Абавязаць Райзаг, Заготжывёлу, Дораддзел, Заготзярно і інш. пад асабістую адказнасць кіраўнікоў, своечасова дасылаць сельсоветам копіі квіткоў для адзнак у пагаспадарчых кнігах выканання дзяржаўных абавязкаў.

6. Прапанаваць усім аддзелам Горсовета, у прыватнасці Горвнугандлю, і ўсім сельсоветам строга прытрымлівацца ўстаноўленых Урадам СССР і БССР форм і тэрмінаў учота і справаздачнасці, не дапускаючы ўвядзення незаконных форм і парушэння ўстаноўленых тэрмінаў.

7. Гэтую пастанову апублікаваць у друку.

---

# Пастанова

## Прэзідыума Петрыкоўскага Райвыканкома

*ад 6/IV-1935 года.*

## „Аб рабоце Райінспектуры НГУ і становішчы першічнага ўчота ў сельсоветах“.

Лічыць работу Райінспектуры НГУ не ўпаўне здавальняючай:

1) Да гэтага часу не створана належнага пералому ў рабоце Райінспектуры ў напрамку наладжвання ўчотнай дысцыпліны (своечасовае атрыманне патрэбных матэрыялаў ад установы, прадпрыемстваў), што ствярае значны прарыў у рабоце.

2) Не ўдзелена належнай увагі наладжванню першічнага ўчота па с/советам і калгасам.

3) Штат самой інспектуры поўнасцю не ўкамплектован.

4) Адзначыць, што ўтворанае ўчастковымі інспектарамі праверка першічнага ўчота па с/советам паказала, што да гэтага часу па раёну не зроблена належнага пералому ў гэтай галіне работы, чым парушаецца пастанова СНК БССР ад 8/XII-1934 г. „аб першапачатковым учоце ў с/советах на 1935 год“. З боку старшынь с/советаў гэтаму пытанню не ўдзелена належнай увагі дзякуючы чаму першічны ўчот у большасці с/советаў знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы.

5) Адсутнічаюць ва ўстаноўленых формах паказчыкі выканання паасобнымі гаспадаркамі плана абавязковых паставак і грашовых паступленняў, што ствярае блытаніну ў выкананні заданняў.

6) Як паказала праверка па Белкаўскаму с/совету першічны ўчот па ўстаноўленых формах зусім адсутнічае, ні адна кніга не заведзена, кнігі замараны. Амаль такое-жа становішча па Грабаўскаму, Бабуніцкаму і Асавецкаму с/советам.

Скрыгалаўскі с/совет да гэтага часу нават не паклапаціўся атрымаць у РВК кнігі першічнага ўчота. Усё гэта ставіць пад пагрозу зрыва завядзенне першічнага ўчота па с/советам і паказвае, што не ўсе старшыні с/советаў зразумелі палітычна-гаспадарчае значэнне ўнядрэння правільнага першічнага ўчота і справаздачнасці ў с/советах і калгасах.

Выходзячы з гэтага прэзідыум РВК п а с т а н а ў л я е:

1. Прапанаваць Райінспектару НГУ тав. Грунецкаму ў самы хутчэйшы тэрмін ліквідаваць прарывы ў рабоце Райінспектуры НГУ, поўнасцю ўкамплектаваць штат Райінспектуры здольнымі і класава-вытрыманымі працаўнікамі.

2. Весці самую рашучую барацьбу з парушыцелямі ўчотнай дысцыпліны (тэрміны справаздачнасці, спуск зацверджаных форм), прыцягваючы віноўных да суровай адказнасці.

3. За несвоечасовае прадстаўленне ў Райінспектуру НГУ квартальнай і месячнай справаздачнасці па камбінату, рыбарцелі, карзіначнай і кравецкай арцелям Скрыгалава кіраўнікам гэтых прадпрыемстваў аб'явіць выгавар папярэдзіўшы іх, а таксама ўсіх кіраўнікоў устаноў і прадпрыемстваў, што ў далейшым за несвоечасовае прадстаўленне ў НГУ патрэбнай адчотнасці ў адносіне іх будуць прымацца больш жорсткія меры спагнання.

4. За дрэнныя і неўважлівыя адносіны да завядзення першчнага ўчота ў асаблівасці па Белкаўскаму, Скрыгалаўскаму, Грабаўскаму і Кабуніцкаму с/советах сакратарам гэтых с/советаў т. т. Папета, Пікуза, Яворскаму і Юрчанка аб'явіць выгавар, папярэдзіўшы, што калі да 15/IV-1935 года ўчот не будзе наладжан яны будуць прыцягнуты да стражайшай адказнасці як за зрыў учота.

Старшыням гэтых-жа с/советаў за непрыняццё мер па наладжванню гэтай работы паставіць на від, адначасова папярэдзіць усіх старшынь с/советаў, што калі ў бліжэйшы тэрмін не будзе створана належнага пералому ў справе завядзення першчнага ўчота Райвыканкомам да віноўных будуць прымацца суровыя меры ўздзейнічання.

5. Абавязаць усіх працаўнікоў РВК заяжджаючых у с/советы правяраць вядзенне ўчота ў с/советах.

6. Абавязаць усе с/советы ўключыць у план сваей работы перыядычнае заслухоўванне на прэзідыумах с/советаў аб становішчы ўчота ў с/совеце і калгасах.

7. Прапанаваць Райінспектару НГУ тав. Грунецкаму поўнасцю забяспечыць усе с/советы кнігамі па першчнаму ўчоту.

8. Абавязаць усе с/советы захоўваць кнігі і дакументы па ўчоту нараўне з грашовымі дакументамі.

9. Прапанаваць усім старшыням с/советаў скласці спрыяючыя ўмовы для працы ўчастковых інспектароў НГУ аказваючы ўсямерную дапамогу ў іх рабоце, прыцягваючы ўвесь сельскі калгасны актыў у дапамогу наладжвання ўчота.

10. Абавязаць тыя с/советы, дзе знаходзяцца ўчастковыя інспектара НГУ (Капцэвічы, Глініца) даваць ім бесплатна памяшканне для работы з гаспадарчым абслугоўваннем (уборка, асвятленне, апал, карыстанне тэлефонам).

11. На працягу 2-га квартала 1935 г. заслухаць на прэзідыуме Р. В. К. 2-3 с/совета аб становішчы ўвядзення першчнай дакументацыі ў іх с/советах.

12. Гэту пастанову апублікаваць у друку.

Старшыня РВК: *Закоркін*
Сакратар РВК: *Зарэцкі*

## Пастанова

### Прэзідыума Сіроцінскага Райвыканкома

*ад 2/IV-35 г.*

### „Аб налажэнні спагнанняў за парушэнне вучотнай дысцыпліны

За апошні час наглядаецца шэраг выпадкаў, калі сельсоветы, калгасы, прадпрыемствы і ўстановы груба парушаюць устаноўлены Урадам закон, аб вучоце і адчотнасці, выходзячы з чаго Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1) За неўвядзенне да гэтага часу пагаспадарчых кніг Баранкоўскім с/с. сакратара сельсовета тав. Шевяко аштрафаваць на 15 рублёў, а старшыню тав. Шчарбакова рашуча папярэдзіць, што калі ў бліжайшы час не будуць заведзены пагаспадарчыя кнігі да яго будуць прыняты адпаведныя меры спагнання.

2) За нерэгістрацыю будаўніцтва МТС у інспектуре НГУ на 1/I-35 г. і закончанага ў 1934 г. тэхніка-будаўніка МТС тав. Медведкіна В. аштрафаваць на 25 рублёў.

3) Дырэктара Мішнявіцкага льнозавода тав. Парына і бухгальтара тав. Якубовіча за непрадстаўленне ў тэрмін адчотных картак № 1 за люты м-ц 1935 г. аштрафаваць па 20 р. кожнага.

4) Бухгальтара Сіроцінскай МТС тав. Третьякова, на непрадстаўленне ў інспектуру НГУ звестак па сталоўцы за 1934 г.—аштрафаваць на 25 рублёў.

5) За непрадстаўленне ў Райза звестак па становішчу на 1/IV-35 г. аб злучной, надзялення бескароўных і калектывізацыі аштрафаваць сакратароў Старыноўскага і Амбросаўскага с/с. тав. тав. Лешакова і Шалахава на 15 рублёў кожнага і папярэдзіць старшынь гэтых сельсоветаў.

Старшыня РВК *Кабыш*

Сакратар *Юдіцкі*

---

## Выпіс з пратаколу

### паседжання прэзідыуму Касцюковіцкага Райвыканкома.

*29/IV-1935 г.* *м. Касцюковічы*

Слухалі: Дакладную запіску Райінспектара НГУ аб маючым мейсцы парушэнні існуючага законапалажэння ў Нізкаўскім сельсовеце выразіўшыеся ў налажэнні штрафа па (5 руб.) пяці руб.

на рахункаводаў калгасаў за непрадстаўленне штодзенных інфармацый сельсоветам аб ходзе сева па калгасам.

Пастанавілі: Адмяніць пастанову Нізкаўскага сельсовета аб налажэнні на рахункаводаў штрафа за непрадстаўленне штодзенных звестак.

---

## Выпіс з пратакола № 16

### паседжання Прэзідыума Ушацкага Раённага Выканаўчага Камітэта

*Ад 3 мая 1935 г.*

Разглядалі: 306. Аб становішчы первічнага ўчоту ў сельсоветах. (т. т. Перапечкін, Дуброўскі, Карпенак, Сіваграк).

Пастанавілі: Праверкай участковым інспектарам НГУ і дадатковым абследваннем камісіяй, выдзеленай Прэзідыумам РВК па Жарскаму сельсовету ўстаноўлена, што становішча первічнага ўчоту ў Жарскім, Чарапоўшчынскім, Сарочынскім сельсоветах зусім дрэннае.

Не гледзячы на цэлы шэраг папярэджанняў з боку НГУ да гэтага часу па гэтых сельсоветах первічны ўчот не заведзен.

Выходзячы з гэтага Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Сакратара Сарочынскага сельсовета тав. Сінічына за сабатаж первічнага ўчоту з работы зняць і аддаць пад суд, папярэдзіць старшыню Сарочынскага сельсовета тав. Дуброўскага забяспечыць завядзенне первічнага ўчоту ў сельсовеце да 15 мая 35 г.

2. Старшыні Жарскага сельсовета тав. Перапечкіну за саноўна бюрократычныя адносіны да первічнага ўчоту ў сельсовеце, за грубыя адносіны да ўчастковага інспектара НГУ тав. Зарубы паставіць на від. Адначасова папярэдзіць тав. Перапечкіна, што калі первічны ўчот у сельсовеце не будзе заведзен да 15 мая, то ён будзе прыцягнут да больш суровай адказнасці.

3. Прыняць да ведама заяву сакратара Чарапоўшчынскага с/с тав. Карпенка аб тым, што ім первічны ўчот будзе заведзен да 15 мая 35 г.

4. Папярэдзіць астатніх старшынь сельсоветаў, што калі первічны ўчот не будзе заведзен да 15 мая Прэзідыум РВК будзе вымушан прыняць больш суровыя меры спагнання.

5. Прапанаваць тав. Сіваграку з 15 па 20 мая правесці праверку завядзення первічнага ўчоту і аб выніках далажыць Прэзідыуму РВК.

---

## Выпіс з пратакола № 15
### паседжання Прэзідыума Клімавіцкага РВК
*ад 16 красавіка 35 года.*

Слухалі: Аб пастаноўцы ўчота і справаздачнасці ў Гусарскім с/с.

Пастанавілі: Адзначыць, што не гледзячы на вытвараны інструктаж на месцы ў с/с аб завядзенні кніг і ўказанняў аб штодзённай запісі па кнігам работнікамі с/с Федарэнка (сакратар) і Валкевічам (рахункавод) кнігі ўчота вядуцца безабразна. У час праверкі было ўстаноўлена поўнае ігнарыраванне пастаноў Прэзідыума РВК — ніякага ўчота ў с/с немаецца, прыём грошай практыкуецца без выдачы квітанцый па спісу, інвентарызацыі маёмасці с/с не вядзецца і не атрымліваюцца распіскі аб этрыманні апошніх, прыёмныя квітанцыі захоўваюцца ў адчыненых шкафах і ў безабразным становішчы. Выходзячы з чаго Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. За безабразнае становішча ўчота і справаздачнасці (адсутнасць штодзённай запісі па ліцавым рахункам, незавядзенне кніг учота, адсутнасць учота маёмасці с/с) рахункавода т. Валкевіча з работы зняць.

2. Сакратару с/с т. Федарэнка паставіць на від, папярэдзіўшы яго, што ў выпадку паўтарэння ён будзе прыцягнут да больш суровай адказнасці. Указаць старшыне с/с т. Фанабровічу на неарэагіраванне і адсутнічанне штодзённага кантроля за вядзеннем учота, папярэдзіўшы яго, што ў выпадку паўтарэння гэтакай расхлябанасці ў учоце с/с і фінансавай дысцыпліны будуць прыняты больш суровыя меры.

3. Абавязаць т. Фанабровіча і Федарэнка на працягу 5 дзён завесці належны ўчот і ліквідаваць маючыяся недахопы.

4. Папярэдзіць усіх старшынь, сакратароў і рахункаводаў сельсоветаў, што ў выпадку паўтарэння такіх безабразій, як у Гусарскім с/с і невыканання рашэнняў Прэзідыума РВК аб пастаноўцы ўчота і справаздачнасці, да вінаватых будуць прыняты суровыя меры ўздзейнічання.

Старшыня РВК *Сільвестраў*
Сакратар—*Фельдман*

## Пратакол
### нарады сакратароў сельсоветаў Бешанковіцкага раёна
*1 красавіка 1935 г.*

Прысутнічалі: Сакратар РВК *Мардвінаў*, загадчык Райза *Яружэнец*, нам. загадчыка Райза *Новікаў*, раённы інспектар Наргасучота *Кулакоўскі*, інспектар па ўчоту Райзем-

аддзела *Шындзяла*, зоотэхнікі Райза *Іваноў* і *Некрашэвіч*, 16-сакратароў сельсоветаў.

**Слухалі**: Аб становішчы ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах.

**Пастанавілі**: 1. Адзначаючы, што сакратары с/с не цікавяцца справай учота ў сельсовеце, даручылі гэту важнейшую галіну працы сельсоветаў, рахункаводам с/с, працу рахункаводаў с/с не правяраюць, у выніку становішча ўчота ў большасці с/с знаходзіцца ў хаотычным становішчы, адказнасць за становішча справы ўчота ў с/с ускласці персанальна на сакратароў с/с.

2. Лічыць неабходным, каб рэвізійныя камісіі с/с, пры ўтварэнні рэвізіі с/с абавязкова рабілі праверку становішча ўчота і первічнай дакументацыі ў с/с, з абавязковай дачай заключэння, у тых выпадках, калі будзе заблытан учот, хто персанальна ў гэтым віновен, для прыцягнення да крымінальнай адказнасці.

3. Канстатуючы, што сакратары паасобных сельсоветаў (Бачэйкава, Свяча, Бешанковічы, Бікложа) не гледзячы на неаднаразовыя паказанні, аб своечасовым і акуратным вядзенні пагаспадарчых кніг № 2 і 3 асноўных вытворчых паказчыкаў гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў і ўчота выканання насельніцтва абавязкаў перад дзяржавай, да гэтага часу на гэту справу не звярнулі належнай увагі—кнігі № 2 нават не ва ўсіх сельсоветах яшчэ заведзены, у выніку чаго ў с/с адсутнічае ўчот асноўных паказчыкаў, асабліва ўчот жывёлы, што не дае магчымасці сельсоветам узяць пад штодзённы кантроль выкананне калгаснікамі і аднаасобнікамі планы жывёлагадоўлі, прапанаваць сакратарам с/с пад іх персанальную адказнасць да 15 красавіка поўнасцю завесці кнігі № 2 і 3.

Да гэтага тэрміну таксама завесці рэгістрацыю прыплода жывёлы згодна пастановы СНК БССР, у калгаснікаў і аднаасобнікаў.

4. Адзначаючы, што сакратары с/с не цікавяцца становішчам ўчота ў калгасах, прапанаваць сакратарам с/с зараз-жа па прыбыцці ў с/с склікаць нараду рахункаводаў калгасаў, з пастаноўкай пытання ўчота і справаздачнасці калгаса.

Пры кожным наведванні калгаса рабіць праверку ўчота і справаздачнасці ў калгасах, ставячы ў свядомасць Райза аб кожным выпадку нездавальняючага становішча ўчота і справаздачнасці ў тым альбо іншым калгасе.

5. Адзначаючы, што перадаваемыя сельсоветамі ў Райзо звесткі па тэлефону зачастую не адпавядаюць сапраўднасці, маюць мейсца выпадкі з боку працаўнікоў с/с адмаўленне ад перададзеных ім па тэлефону звестак, лічыць неабходным абавязковую пасылку сельсоветамі не пазней, як на другі дзень, пісьмовага

пацвярджэння перададаных па тэлефону звестак—па ўстаноўленай форме КНГУ.

6. Прасіць прэзідыум РВК накласці спагнанне за неяўку на нараду на сакратароў с/с Ульскага—Марковіча, Усвейскага—Баркоўскага, а сакратара Пажарышчанскага с/с—Зубца за сістэматычнае непрадстаўленне Райза звестак аб ходзе падрыхтоўчай працы да вясенняй пасеўкампаніі і інш., а таксама за неяўку на нараду аддаць пад суд.

7. Лічыць, як правіла, што ўсе зводкі калгасы перадаюць у Райза праз с/с і асабліва па форме № 8, а сельсоветы, праверыўшы іх, перасылаюць у Райза.

8. Прыняць да ведама паведамленне загадчыка Райза, што за добраякасную пастаноўку ўчота і правільнае яго вядзенне, пастановай прэзідыума РВК дазволена сельсоветам устанавіць сакратарам с/с надбаўку ў 25 рублёў у месяц.

Загадчык Райза *Яружэнец*

Сакратар *Шэндзяла*

---

## Загад

## па Барысаўскай Райінспектуры Наргасучота

*ад 7 мая 1935 г.*

1. Участковаму інспектару Зембінскага куста т. Жахоўскаму за самавольны выезд з участка (аставіў участак на 2 дні) за абман абвяшчаю суровую вымову з занясеннем у працоўны спіс.

2. Тав. Лютарэвічу, участковаму інспектару Чырвона-Слабодскага куста, за самавольны выезд з участка ў г. Барысаў абвяшчаю вымову.

3. Папярэджваю т. т. Жахоўскага і Лютарэвіча, што ў выпадку паўтарэння такіх фактаў яны будуць зняты з працы і адданы пад суд.

4. Папярэджваю астатніх участковых інспектароў і забараняю самавольныя адлучкі і выезды з участкаў без маей згоды.

Адначасова абавязваю ўсіх участковых інспектароў завесці днеўнікі сваей работы.

Інспектар Наргасучота

Барысаўскага раёна *Кулікаў*

---

## Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

Уключаюся ў конкурс на лепшую райінспектуру і выклікаю на соцспаборніцтва па ўсім паказчыкам Лельчыцкую райінспектуру.

Райінспектар Нараўлянскага раёна *Сцяпанаў*.

## Кіраўніцтву Наргасучота БССР.

Уздзенская райінспектура Наргасучота прымае выклік Копыльскай райінспектуры на выкананне ўмоў конкурса на лепшую райінспектуру па кожнаму пункту конкурса.

За інспектара Наргасучота *Буры*

---

## Кіраўніцтву Нар. Гасп. Учота БССР

Мы, работнікі Дрысенскай Райінспектуры Наргасучота, уключаемся ў конкурс на лепшую Райінспектуру Наргасучота па ўсім паказчыкам конкурса з наступнымі дадаткамі:

1. Весці сталы нагляд за сельсоветамі, калгасамі і Райзо у правільнасці дачы звестак па пасеўным плошчадзям:
2. Добраякасна і ў тэрмін правесці заключаную справаздачу вясенняй пасеўкампаніі.
3. Добраякасна правесці вымярэнне ўраджая на карню і іншых работ, звязаных з вымярэннем ураджая.
4. Добраякасна і ў тэрмін правесці чэрвеньскі ўчот жывёлы.
5. Штомесячна не пазней 15 числа складаць кон'юктуру выканання народна-гаспадарчага плана для кіруючых раённых арганізацый.

Выклікаем на спаборніцтва Полацкую Райінспектуру НГУ.

Райінспектар НГУ *Чыжэўскі*

Эканаміст *Романоўскі*

Ст. Статыстык *Рапапорт*

Участковыя Інспектара { *Романчук*, *Казлоўскі*, *Лісоўскі* }

6 МАЯ 1935 г.
м. Дрыса

---

## Соцумова.

### Мая месяца 5-га дня 1935 года м. Ельск.

Я, участковы інспектар НГУ 1-га участка Ельскага раёна, Васькевіч Ф. І., улічваючы палітычную важнасць усіх работ па ўчоту і кантролю, бяру на сабе абавязацельства аб тым, што на працягу 3-х м-цаў з 5/V па 1/VIII 1935 г., абавязваюсь выканаць наступныя віды работ па конкурсу на лепшую райінспектуру:

1. Завесці днеўнік участковага інспектара з апісаннем зместа работ, які-б правяраўся райінспектарам раз у дэкаду.

2. Ліквідаваць прарыў да 15/V-35 г. па вядзенню первічнага ўчота ў адсталых с/с свайго ўчастка, як-та—добраякаснае запаўненне ўсіх раздзелаў у кнігах ф. №№ 1, 2-а, 2-б, 3 і 4, а таксама і ўсіх астатніх.

3. Прыняць актыўны удзел у правядзенні чэрвеньскага ўчота жывёлы, правесці добраякасна кантрольныя абходы па даручаным мне райінспектарам аб'ектам і добраякасна скласці с/савецкія ітогавыя спісы ва ўстаноўлены тэрмін.

4. Утварыць праверку справаздачнасці як па калгасам, так і па с/советам аб ходзе сева.

5. Узмацніць барацьбу супроць парушэння ўстаноўленых форм справаздачнасці і дачы неправідловых справаздачных даных (выяўленне фактаў спуска не зацверджаных форм, очкаўцірацельств пры дачы звестак па пасеўнай плошчы вясенняга сева).

6. Своечасова правесці збор матэрыялаў аб пасеўплошчах скласці с/савецкія ітогавыя зводкі аб ходзе сева.

7. Добраякасна правесці вымярэнне ўраджаю на карню.

8: Выявіць усе незарэгістраванае будаўніцтва, пачатае ў 1935 г., а таксама і закончанае будаўніцтва пачатае ў 1934 г.

9. Добраякасна правесці квартальны ўчот прадукцыі жывёлагадоўлі і своечасовы збор матэрыялаў.

10. Правесці праверку ва ўсіх калгасах пастаноўкі ўчота і дапамагчы ім ліквідаваць выяўленыя недахопы.

11. Дабіцца своечасовага прадстаўлення матэрыялаў па адначасова-выбарачнаму абследванню зарплаты ва ўстановах асветы.

12. Арганізаваць адну ячэйку ВОСУ, а па магчымасці і больш.

13. Заключыць соцумовы паміж сельсоветамі майго ўчастка на добрую пастаноўку первічнага ўчота і адчотнасці і барацьбы з незаконнымі формамі ўчота і адчотнасці.

14. Павысіць веды ўчастковага інспектара—шляхам самадукацыі па маючымся матэрыялам, як: азбука статыстыкі, калгаснае рахункаводства, з кніг бібліятэкі раённага інспектара і ўсіх дасылаемых інструкцый, а таксама павысіць палітычныя веды шляхам наведвання вячэрніх партгурткоў.

15. Незасіжвацца ў цэнтры ўчастка, а больш выязджаць у калгасы і сельсоветы свайго ўчастка для добраякаснага выканання плана работ, намечанага кіраўніцтвам НГУ.

16. Уключыцца ў паход па рэалізацыі пазыкі другой пяцігодкі 3-га года выпуска сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў свайго ўчастка.

Па ўсім вышэй азначным пунктам вызываю на соцспаборніцтва ўчастковых інспектароў 2-га і 3-га ўчастка Ельскага раёна.

Участковы інспектар НГУ *Васькевіч*

Вызаў прыймаем: Уч. інспектар 2-га участка *Ахрамеяў*

Уч. інспектар 3-га участка *Назарчук*

---

Рэдкалегія: *Арцямкоў*, *Голант*, *Магідаў*

Адказны рэдактар *В. Магідаў*.

Уп. Галоўлітбелу № 3071. Тыраж 400 экз. 42 стар. Заказ № 1399.
Здана ў друк 15/V 1935 г. Падпісана да друку 25/V-1935 г.
Друкарня Беларускай Акадэміі Навук. Менск, Няміга, 7.

